www.nv-online.info

№ 6 (4258)

19 студзеня 2018 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
***Якуб КОЛАС***

Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ВЫБАРЫ

## Лябедзьку загадалі «звярнуць агітацыю»

*Не чакаючы афіцыйнага старту агітацыйнага этапу кампаніі па выбарах у мясцовыя Саветы дэпутатаў, некаторыя прадстаўнікі апазіцыі пайшлі ў народ. "Хаджэнне" атрымалася нядоўгім.*

Учора апоўдні на пляцоўку ля сталічнага Камароўскага рынку выйшлі старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі **Анатоль Лябедзька**, сустаршыня аргкамітэта па стварэнні партыі "Беларуская хрысціянская дэмакратыя" **Віталь Рымашэўскі** і старшыня руху "За Свабоду" **Юрась Губарэвіч.** Патлумачылі, што выйшлі для таго, каб публічна распавесці і выбаршчыкам, і журналістам пра вынікі рэгістрацыі сябраў іх структур кандыдатамі ў дэпутаты. Выбаршчыкаў на арганізаваным пад адкрытым небам мерапрыемстве было значна менш, чым журналістаў.

Як толькі палітыкі пачалі прамаўляць, на мабільны тэлефон Анатоля Лябедзькі пазванілі. Абанент сказаў, што працуе ў Мінгарвыканкаме, і параіў палітыкам "звярнуць агітацыю", бо афіцыйна агітацыйная кампанія пачынаецца толькі сёння, 19 студзеня.

Анатоль Лябедзька пагаварыў з абанентам, а потым распавёў журналістам.

*– Я не ведаю, хто тэлефанаваў. Запомніў толькі імя па-бацьку гэтага чалавека – Віктаравіч. Ён сказаў, што "прэс-канферэнцыі" неабходна праводзіць у партыйных офісах, а не на вуліцах. Асабіста я лічу, што ніякія Віктаравічы, Пятровічы ці Захаравічы, хай нават і з Мінгарвыканкама, не могуць даваць мне ўказанні, дзе мне камунікаваць з людзьмі.*

Камунікацыя з людзьмі доўжылася нядоўга – хвілін 15–20. І звялося ўсё збольшага да справаздачы пра тое, колькі апазіцыйных кандыдатаў не зарэгістравалі выбарчыя камісіі.

Так, дакладна вядома, што ў Мінску зарэгістраваны толькі двое з сямі вылучэнцаў руху "За Свабоду" – гэта старшыня Юрась Губарэвіч і ягоны намеснік Юрый Меляшкевіч.

АГП мае тут стопрацэнтны паказчык – чатыры з чатырох. На момант напісання гэтага тэксту кіраўнікі аргкамітэта па стварэнні БХД дакладных лічбаў аб рэгістрацыі сваіх вылучэнцаў не мелі з-за таго, што тэрытарыяльныя выбарчыя камісіі закончылі сваю працу толькі ўчора вечарам.

**Антон ВІТАЛЬЕЎ.**

НАДВОР'Е

### Зімовае надвор'е захаваецца

**19 студзеня** ноччу пераважна па паўднёвым захадзе, а раніцай і днём на большай частцы тэрыторыі краіны снег, мокры снег. У асобных раёнах – завіруха. На дарогах – галалёдзіца.

Тэмпература паветра ноччу і раніцай панізіцца да -1...-7°С, у другой палове дня – -5...+1°С.

У Мінску ноччу -2…-4°С, днём – 0…-2°С.

**20 студзеня** ноччу і раніцай на большай частцы тэрыторыі, днём пераважна ў паўночна-ўсходніх і паўднёва-заходніх раёнах краіны пройдзе кароткачасовы снег. На асобных участках дарог галалёдзіца. Тэмпература паветра мінімальная ноччу -2...-7°С, максімальная днём – 0...-5°С.

**21 студзеня** тэмпература паветра мінімальная ночу -3...-9°С, максімальная днём -1...-6°С.



Калаж Ірыны ПУСТАВАЛАВАЙ.

К БАР'ЕРУ!

## Грышын супраць Казлова

*Кандыдатамі ў дэпутаты Мінскага гарсавета па Старавіленскай выбарчай акрузе №41 зарэгістраваны алімпійскі чэмпіён па фрыстайле **Аляксей Грышын** і сябра Аб'яднанай грамадзянскай партыі, падпалкоўнік міліцыі ў запасе **Мікалай Казлоў**.*





Аляксей Грышын – праслаўлены спартсмен. У 2010 годзе выйграў алімпійскія гульні ў Ванкуверы, у 2002-м стаў бронзавым прызёрам Алімпійскіх гульняў у Солт-Лэйк-Сіці. Грышын – неаднаразовы пераможца і прызёр чэмпіянатаў і этапаў Кубка свету па фрыстайле. Пасля няўдалага выступлення на алімпіядзе ў Сочы ў 2014 годзе Грышын прыняў рашэнне пакінуць вялікі спорт. Прычым ён увогуле адышоў ад спартыўнай дзейнасці і заняўся бадзёнічным бізнесам.

Сёння Грышын – індывідуальны прадпрымальнік, у мінулым годзе пабудаваў у сталічным мікраёне "Лябяжы" шматпавярховы жылы дом. Ён вядзе непублічны лад жыцця, амаль не дае інтэрв'ю. У адрозненне ад свайго саперніка па выбарах Мікалая Казлова, які неаднаразова прад'яўляў факты фальсіфікацый падчас выбарчых кампаній у Беларусі.

Казлоў – актыўны ўдзельнік амаль усіх акцый, якія ладзяць у Беларусі прадстаўнікі апазіцыі. Палітыка добра ведаюць жыхары яго мікраёна: гэтыя выбары не першыя, у якіх Мікалай Казлоў бярэ ўдзел.

*– Аляксей Грышын – добры спартсмен, але я не бачу ў ім сур'ёзнага саперніка на выбарах, – кажа Мікалай Казлоў. – Я даволі шчыльна працаваў у раёне падчас збору подпісаў і толькі аднойчы перасёкся з абсалютна бязлюдным пікетам, які ладзіла ініцыятыўная група Грышына. Я не чуў ад выбаршчыкаў, каб Грышын хадзіў па кватэрах і збіраў подпісы. Пра грузчыка з крамы, які хоча балатавацца, чуў, а пра Грышына – не.*

*Мне складана сказаць, наколькі жыхары нашага раёна падтрымаюць кандыдатуру Аляксея Грышына. Спартсмен ён у мінулым, а цяпер развівае будаўнічы бізнес. Цэнтральны раён – стары раён, зараз востра стаіць пытанне аб яго ўшчыльненні. Людзі, напэўна, будуць асцярагацца, што Грышын, стаўшы дэпутатам гарсавета, будзе лабіраваць інтарэсы сваёй кампаніі... Акрамя таго, усе мы добра ведаем, у якой жывём краіне. Усе выдатна разумеюць, што без адміністрацыйнай падтрымкі наўрад спартсмен так хутка стаў бы паспяховым бізнесменам у будаўнічай галіне. Каму ў нашай краіне даюць лепшыя кавалкі пад забудову? Якому пачаткоўцу дазволяць будаваць свой першы аб'ект на праспекце Пераможцаў?*

*Напэўна, спартсмен Грышын быў нядрэнны, але што тычыцца выбараў, то ў мяне ёсць усе падставы лічыць, што допінг у выглядзе адміністрацыйнага рэсурсу ён атрымлівае поўнай лыжкай. І ў мяне вялікія сумневы, што ён гатовы сумленна змагацца за месца ў гарсавеце. Пра яго "зацікаўленасць" у выбарах сведчыць той факт, што ўчора ні сам Грышын, ні яго прадстаўнік не з'явіліся ў акруговую камісію, каб атрымаць пасведчанне аб рэгістрацыі кандыдатам і ўзяць удзел у жараб'ёўцы выступленняў на радыё.*

Дарэчы, па Старавіленскай выбарчай акрузе №41 зарэгістравана 7 кандыдатаў у дэпутаты Мінскага гарсавета. У барацьбу ўступаюць таксама і прадстаўнікі дзяржаўных устаноў – намеснік галоўнага ўрача 4-й мінскай паліклінікі **Алена Абдольванд**, намеснік дырэктара Рэспубліканскага цэнтра фізвыхавання і спорту навучэнцаў і студэнтаў, сябра КПБ **Уладзімір Антончык**, начальнік упраўлення па рабоце з кадрамі "Белтэлекама" **Міхаіл Лісаў**. Сярод кандыдатаў акругі прадстаўнік ЛДПБ **Іван Літвінюк** і партыі "Справядлівы свет" **Аляксандр Апарын**.

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

У ТЭМУ

### Коваль ідзе ў дэпутаты

Кандыдатам у дэпутаты Мінскага гарадскога Савета зарэгістраваны яшчэ адзін вядомы спартсмен – найлепшы хакеіст Беларусі 2012 года, экс-галкіпер зборнай Беларусі **Віталь Коваль**. Балатуецца ён ад Ліберальна-дэмакратычнай партыі па 39-й Вяснянскай выбарчай акрузе. Адзін з яго канкурэнтаў – дырэктар гімназіі №16 **Георгій Кушнiроў**. У гэтай гімназіі вучацца дзеці беларускіх топчыноўнікаў.

ТОЧКА ЗРЕНИЯ



Александр ФЕДУТА

## Скорее мертвые, чем живые

Когда председатель Центризбиркома Лидия Ермошина заявляет о низком уровне интереса политических партий к выборам в местные Советы, она – может быть, в виде странного исключения – говорит сущую правду, легко подтверждаемую статистикой. Действительно, 992 кандидата, выдвинутых от партий на 18.111 округов, – ничтожно мало. Всего 4% от общего числа кандидатов. И это при том, что в Гродненской, например, области более 50% округов остаются безальтернативными. Иди в депутаты – так нет, не хотим!

Можно много рассуждать о том, что именно мешает плохим танцорам и оппозиционным партиям. Оппозиционеры могут попросту заявить:

– Мы не верим в честность этих выборов, а потому их бойкотируем.

И в этом отношении они даже будут выглядеть вполне благопристойно, ибо некоторые из них – например, председатель БСДГ Станислав Шушкевич или лидер КХП–БНФ Зенон Позьняк – последовательно выступают за бойкот любых выборов при этой власти. Другие иногда, как стыдливые дамы полусвета, прячутся за терминологическими ширмочками: дескать, мы не в выборах участвуем, а выставляем «спикеров», чтобы они несли в массы наши уникальные партийные ценности. Правда, чем эти самые «спикеры», получив мандат, отличаются от обычных «мандатоносцев», нам не говорят, хотя подобный прецедент, как мы помним, совсем недавно случился на высоком депутатском уровне.

Но оставим в покое оппозицию. Поговорим о «провластных» партиях.

Так, согласно информации Центризбиркома, от Белорусской аграрной партии выдвинулось целых два (подумать только!!!) кандидата в депутаты. И это – как раз на том уровне, где их избиратели действительно нуждаются в защите своих интересов. Причем, напомню, речь в данном случае идет о партии, которая в 1996 году имела самую большую партийную фракцию в тогдашнем Верховном Совете и даже получила при разделе должностей пост председателя Верховного Совета, который занял всем известный Семен Шарецкий, теперь пребывающий в США.

Есть такой сайт – «Википедия». Он знает всё обо всём и обо всех, хотя иногда (бывает) сообщает неточные сведения. Согласно его информации, партия, лидером которой является вице-премьер Михаил Русый (тот самый, который курирует в правительстве агропромышленный сектор) имела в 1995–1996 гг. в Верховном Совете 34 депутатских мандата, в 2000 году – 5 мандатов, в 2004 году – 3, а в 2008-м и 2012 годах – по одному депутату в парламенте. Получается, что за 21 год партия «сдулась»? Тогда ее представители набирали необходимое число голосов – по той же мажоритарной системе, – а сейчас нет? А почему?

Не нужно говорить, что Белорусская аграрная партия, защищая интересы трудящихся аграриев, так активно боролась с властью, что та, увидев опасность представительства партийцев-аграриев, ужаснулась и предпочла просто сфальсифицировать результаты выборов на тех округах, где мужественно выдвигались кандидаты от партии. Есть хоть что-то, в чем не повинна наша власть и лично Александр Лукашенко. В данном случае, они не повинны в том, что БАП существует исключительно в виде правового фантома: документы в порядке, но партийной жизни как таковой нет. Мы знаем о склоках в рядах социал-демократов, о разногласиях в Партии БНФ, о поездках по регионам лидера партии левых «Справедливый мир», о попытках выдвижения активистов Объединенной гражданской партии. Но где спят члены Белорусской аграрной партии, мы не знаем. Мы знаем лишь, что толпы этих членов фигурируют среди членов избирательных комиссий, – это есть. Но вот среди кандидатов – нет. И среди политического актива – тоже.

И здесь есть еще одно интересное обстоятельство.

По нашему законодательству политическая партия может быть зарегистрирована лишь в том случае, если она имеет представительства (офисы) более чем в половине регионов Беларуси. То есть в четырех областях. Офисы нужно содержать (жилые помещения Министерство юстиции не признает таковыми), нужно иметь договоры аренды, оплачивать их – хотя бы по минимальной ставке, а значит, собирать членские взносы либо добровольные пожертвования граждан – причем на банковский счет! Министерство юстиции ежегодно требует от политических партий – всех, включая оппозиционные, – отчеты об их деятельности; представителей министерства нужно приглашать на все партийные съезды или хотя бы уведомлять о них – просто чтобы чиновники видели, что ротация партийного руководства осуществляется в соответствии с зарегистрированным уставом. И та же «Википедия» свидетельствует, что в июне 2009 года Белорусская аграрная партия получила предупреждение от Министерства юстиции за то, что не предоставила годовой отчет!

Для справки: Михаил Русый возглавил БАП в 2008 году, пообещав оживить партию. Реаниматор из него оказался хреновый (конечно, по моему не вполне просвещенному мнению). Всего два кандидата в депутаты местных Советов – достойный результат деятельности.

Такова, простите за выражение, партийная жизнь. Любой политконсультант – даже без докторской степени – остановится над этим Буратино и, вздохнув, произнесет вердикт:

– Пациент скорее мертв, чем жив.

Но не означает ли это, что в большинстве своем в избирательных комиссиях партию представляют зомби, имеющие значительный опыт участия в выборах? Ибо тело, что скорее мертво, чем живо, но при этом демонстрирует некоторые двигательные рефлексы и даже подписывает протоколы заседания комиссий, называется зомби.

По-моему, так.

ЧУЛІ?

## Беларусы ўпершыню перамаглі на этапе «Дакара»



Лідар каманды «МАЗ-СПОРТаўта» Сяргей Вязовіч упершыню стаў пераможцам этапу ралі-рэйду, яму не было роўных на 11-м спецучастку, які стаў сур'ёзным выпрабаваннем для многіх экіпажаў, паведаміў у ААТ «МАЗ».

Знамянальны для беларусаў ралі-заезд быў сумесным стартам, калі на трасу адначасова выехалі матацыклы, джыпы і грузавікі. Працягласць спецучастка склала 280 км, на ім экіпажы чакалі пясчаныя «пасткі». Вязовіч стартаваў у першай пяцёрцы разам з чатырма грузавікамі, 10 матацыкламі і 10 джыпамі. Асноўная небяспека была ў тым, што калі 6 нешта здарылася, то дапамогу прыйшлося б чакаць некалькі гадзін.

У агульным заліку лідар беларускай каманды займае трэцяе месца, прыкметна павялічыўшы адрыў ад найбліжэйшых праследавацеляў – зараз ён складае паўтары гадзіны. Напярэдадні Эдуард Нікалаеў на «КАМАЗе», у якога на этапе зламаўся карданны вал, і Федэрыка Вілагра на Iveco, які стаў лідарам гонкі. Апошняму беларусы саступаюць 3 гадзіны 7 хвілін.

Менш удала склаўся этап для двух іншых экіпажаў «МАЗ-СПОРТаўта» – Аляксандра Васілеўскага і Аляксея Вішнеўскага.

Спецучастак 12-га этапу таксама абяцае быць няпростым. Яго працягласць складзе 523 кіламетры. Гоншчыкаў чакаюць камяністыя адрэзкі, на якіх так лёгка пашкодзіць аўтамабіль. Пры гэтым выключная засяроджанасць спатрэбіцца не толькі ад пілотаў, але і ад штурманаў.

Беларускія гоншчыкі ўдзельнічаюць у ралі-рэйдзе «Дакар» у сёмы раз. Уладальнікам каманды выступае Мінскі аўтазавод, тэхнічным партнёрам – тэлекам-аператар velcom. Асноўная мэта – увайсці ў лік найнадзейных экіпажаў на выніках ралі ў заліку грузавікоў. Марафон сёлета праходзіць па тэрыторыі Перу, Балівіі і Аргенціны. Працягласць толькі хуткасных участкаў складае 3,5 тыс. км, прычым большая частка маршруту прыпадае на высакагор'е. Завершыцца гонка 20 студзеня ў аргенцінскай Кардобе.

**Аляксей АРЭШКА.**

БелаПАН.

Народная Воля http://www.nv-online.info 19 СТУДЗЕНЯ 2018 г.

ПО СЛУЧАЮ



Ирина ХАЛИП

### От редакции

*Знаем, многие читатели «Народной Воли» не дружат с компьютерами и разными гаджетами, а потому не знают, что интересного появляется на том или ином сайте, в различных социальных сетях. Вот почему мы решили взять с «Хартии'97» статью известной журналистки Ирины Халип «Какая чудная игра» и напечатать ее в газете.*

# Какая чудная игра

Сегодня Александр Венгерский крутит баранку в Европе, чтобы заработать пять тысяч евро. Именно столько он должен выплатить по решению суда футбольному клубу БАТЭ, оштрафованному УЕФА. Столько стоил (плюс десять суток ареста) краткий пробег по футбольному полю с бело-красно-белым флагом. Решения суда Венгерский не дожидался – понял, в чью оно будет пользу, и уехал зарабатывать эти деньги. Он – дальнобойщик. Работа очень тяжелая и хорошо оплачиваемая. Говорит, за полгода накопит нужную сумму.

Казалось бы, почти хэппи-энд, но в этой истории есть две омерзительные составляющие. Главная – это позиция футбольного клуба. Когда БАТЭ обратился в суд, он долго всем объяснял, что деньги, которые футболисты собираются отсудить у болельщика с флагом, не вернутся в бюджет клуба, а будут потрачены на благотворительность. А смысл суда в том, чтобы продемонстрировать всем остальным болельщикам: правила нарушать нельзя, есть правовые механизмы борьбы с болельщиками, их не соблюдающими, и всякий следующий нарушитель будет наказан рублем. То есть футбольный клуб взобрался в зенит морального превосходства: деньги себе не возьмем, но показательно отберем и отдадим в детский дом. И действительно, заниматься благотворительностью за чужой счет очень легко. Переводить в детские дома чужие, а не свои деньги. Отсуживать сумму, эквивалентную полуторагодовой зарплате среднего белоруса. И при этом поучать других: смотрите, что будет с каждым из вас, если нарушите правила.

Правила, конечно, нарушать нехорошо. Но в таких случаях есть простой и красивый выход: символический иск на сумму в 1 рубль. Или копейку. Или доллар. Или – если уж совсем крохоборы – евро. И тогда истец остается в белом фраке независимо от решения суда – он ведь не ставит перед собой цель отправить ответчика в рабство на несколько лет. Он просто устанавливает свою моральную доминанту. И сумма такого иска сразу внушает уважение. Ясно, что человек – или футбольный клуб, или нефтяная компания, или рок-группа – отстаивает свою правоту. А пять тысяч евро – копеечка в копеечку с суммой штрафа УЕФА – это уже жлобство истца, которое даже у колеблющихся немедленно вызовет сочувствие к ответчику.

Венгерский, конечно, всех футболистов переиграл всухую. Он уехал и устроился дальнобойщиком, чтобы заработать эти пять тысяч и, помахав ими перед носом БАТЭ, перевести в детский дом. Но он прекрасно понимает, что судебные исполнители все равно придут. И понимает, что эти деньги все равно – так или эдак, конфисковав имущество или высчитывая из зарплаты, – отберут. И готов к этому. Щедрый платит дважды – бывает и такое. Но удовольствие развернуть флаг перед огромной стадионной аудиторией того стоило. Fair play.

С БАТЭ все ясно, но еще одна штука в этой истории оказалась крайне неприятной. Это осуждение акции Венгерского на матче многими из тех, кто в 2014 году выступал за отмену чемпионата мира по хоккею в Минске. Тогда говорили о недопустимости проведения чемпионата в стране, где есть политзаключенные. Сейчас – осуждают человека, который рисковал, чтобы на несколько секунд развернуть на футбольном поле наш исторический национальный флаг. Спорт, говорят они, вне политики. Откуда, из какого нафталинного шкафа они достали эту потасканную, как Дрозды, фразу? Это самое противное, что вообще можно услышать в нашей стране от нормальных образованных людей. Ну разве что «искусство вне политики» может составить конкуренцию.

Спорт, говорите, вне политики? А расскажите об этом северокорейским спортсменам, вопрос об участии которых в зимней Олимпиаде решался во время переговоров на высшем уровне между двумя Кореями. Или советским и американским спортсменам восьмидесятых, которые не поехали – одни в Лос-Анджелес, другие в Москву – из-за взаимного бойкота Олимпиад их странами. Или шведскому правозащитнику Мартину Угла, которого не пустили в Беларусь с билетом на матч чемпионата мира по хоккею. Или Виталию Гуркову, при появлении которого весной на ринге в Минске государственные телеканалы выключили камеры, чтобы в кадр не попала его знаменитая каппа с «Погоней». Спорт вне политики – да-да, несомненно. Об этом даже кино снимали в тридцатые. «Триумф воли» называется. Режиссер Лени Рифеншталь.

А у Александра Венгер-ского все будет прекрасно, я не сомневаюсь. Он заработает денег и поможет детскому дому. И снова развернет флаг – где-нибудь в самом неожиданном месте. А потом, когда пройдет еще совсем чуть-чуть времени, – выйдет с этим же флагом просто на прогулку, потому что акции будут уже не нужны: такие же флаги будут висеть на фасаде каждого государственного здания.

В общем, крепче за баранку держись, шофер!

РЭБУС

# ЧЫМ СКОНЧЫЦЦА
## другая спроба забудовы пляцоўкі былога Чэрвенскага рынку?

### Крыху гісторыі

Чэрвенскі рынак без перабольшання быў адным са знакавых месцаў Мінска. Вядома, што ён пачаў дзейнічаць яшчэ на пачатку мінулага стагоддзя. Тады сённяшняя вуліца Маякоўскага была часткай Ігуменскага тракту, які вёў у мястэчка Ігумен, што ў некалькіх дзясятках кіламетраў ад Мінска. Пасля рэвалюцыі 1917 года Ігумен перайменавалі ў Чэрвень, а дарогу адпаведна ў Чэрвенскі тракт. І рынак у пачатку вуліцы займеў адпаведную назву.

У гады акупацыі Мінска падчас Другой сусветнай вайны Чэрвенскі рынак быў адным з трох месцаў у горадзе, дзе акупацыйныя ўлады дазвалялі рыначны гандаль.

Рэвалюцыю, перайменаванне і акупацыю Чэрвенскі рынак перажыў, а вось перажыць карэкціроўку генеральнага плана Мінска ў бягучым стагоддзі не змог. Сучасныя мінскія ўлады вырашылі, што агароджаныя бетонным плотам незлічоныя гандлёвыя палаткі не надаюць прэзентабельнасці раёну. Рынак было вырашана зраўнаваць з зямлёй, нягледзячы на пратэсты прадпрымальнікаў, якія там працавалі.

У 2013-м гандлёвыя плошчы з Маякоўскага, 4 перанеслі ў мікраараён "Лошыца". Прадпрымальнікі і спажыўцы сталі патроху прывыкаць да новага месца. А на старым вось ужо колькі гадоў знаходзіцца… пустэча.

Хаця спроб знайсці інвестара, які заняўся б забудовай вызваленай ад Чэрвенскага рынку зямлі, было дзве.



На гэтым месцы быў Чэрвенскі рынак. І вось ужо некалькі гадоў – пустэча.

### Спроба першая

Мінгарвыканкам пачаў шукаць інвестара, каб пабудаваць нешта новае на месцы Чэрвенскага рынку, яшчэ даўно. У 2011-м, то бок за два гады да афіцыйнага закрыцця рынку, паміж сталічнымі ўладамі і іранскай кампаніяй "Дзідас" была заключана інвестыцыйная дамова. Тагачасны старшыня Мінгарвыканкама Мікалай Ладуцька распавядаў журналістам, што ў рэканструкцыю аб'екта будзе ўкладзена ні многа ні мала 140 мільёнаў долараў. Потым сума меркаваных інвестыцый вырасла – спачатку да 170 мільёнаў, потым да 200 мільёнаў долараў ЗША.

Планы ў кампаніі "Дзідас" былі маштабныя. Згодна з праектам, на тэрыторыі ў 2,45 гектара на перакрыжаванні вуліц Аранскай і Маякоўскага павінен быў паўстаць шматфункцыянальны комплекс, які акрамя гандлёвых плошчаў утрымліваў бы гатэль з "нумарамі-кватэрамі" і вялікі офісны будынак. Дата здачы комплексу была вызначана дакладна – 2015 год.

Праект быў распрацаваны і нават прадстаўлены шырокай грамадскасці, але справа далей гэтага не пайшла. Малапрывабная пустэча так і засталася пустэчай.

Але Мінгарвыканкам, праявіўшы зайздросную цярплівасць, усё чакаў, што іранскія партнёры ўсё ж такі зрушаць справу з мёртвай кропкі.

Начальнік упраўлення інвестыцый камітэта эканомікі Мінгарвыканкама Мікалай Ахраменка распавядаў наступнае: "Ім (іранскім інвестарам. – **Аўт.**) *узгаднілі нязначныя адступленні ад праекта, але прызначэнне аб'екта, па сутнасці, не мянялася: гандлёвыя і адміністрацыйныя плошчы, забаўляльны цэнтр, паркінг. Проста яны перагледжвалі ўнутраныя суадносіны гэтых плошчаў між сабой. Іх спробы пабудаваць жыллё былі адрынуты, таму што гэта не адпавядала горадабудаўнічым дакументам*".

То бок на месцы былога Чэрвенскага рынку кампанія "Дзідас" планавала пабудаваць яшчэ і звычайныя жылыя дамы, аднак гэта не прыйшлося даспадобы мінскім уладам.

Тым не менш апошняе кітайскае папярэджанне іранцы атрымалі: Мінгарвыканкам быў гатовы чакаць ад іх новага праекта да 1 мая 2016 года.

Не дачакаўся. Таму "адносіны з іранцамі былі спынены".

Шматпакутная, так і не забудаваная пустэча была выстаўлена на аўкцыён…

### Спроба другая

Адкрыты аўкцыён па продажы тэрыторыі былога Чэрвенскага рынку з правам праектавання і будаўніцтва шматфункцыянальнага комплексу адбыўся ў Мінскім гарадскім цэнтры нерухомасці яшчэ восенню 2016 года. Новым інвестарам праекта стала кампанія "Сільвер-Капітал". Дарэчы, гэта быў адзіны ўдзельнік таргоў. Заплаціўшы суму на 5% большую за першапачатковую, "Сільвер-Капітал" атрымаў зямельны ўчастак для рэалізацыі праекта. Канчатковы кошт пытання – 717.170 долараў ЗША.

Што збіраецца пабудаваць на гэтым месцы новы інвестар?

У адрозненне ад іранскага праекта ніякіх гатэля і офісных памяшканняў на месцы Чэрвенскага рынку не будзе. Паводле задумы інвестара, гэта будзе чатырохпавярховы комплекс. На першым паверсе размесцяцца плошчы для гандлю мясам, рыбай, сырамі, малочнай і алкагольнай прадукцыяй. Тут жа з'явяцца кавярні і рэстараны, таксама будзе прадугледжана месца для правядзення кулінарных майстар-класаў і прэзентацый.

Другі і трэці паверхі плануецца аддаць пад гандаль адзеннем і разнастайнымі аксесуарамі, а на апошнім, чацвёртым, – стварыць зону з забаўляльнымі і спартыўна-аздараўленчымі аб'ектамі.

Дарэчы, паводле задумы інвестараў, новы шматфункцыянальны комплекс захавае старую назву – "Чэрвенскі".

Зараз рэалізацыя праекта знаходзіцца на стадыі праектавання і пракладкі патрэбных камунікацый на будаўнічай пляцоўцы. На гэта, адведзена два гады. Такім чынам, цягам 2018-га гэты этап павінен быць скончаны. А здаць новы "Чэрвенскі" ў эксплуатацыю плануецца ў 2020 годзе.

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**
**Фота Радзівона АНТАНОВІЧА.**

ДЫПКУР'ЕР

### Беларусь передала Расіі абноўлены праект пагаднення аб узаемным прызнанні віз

*«Мы прапанавалі найбліжэйшым часам правесці ў Мінску сустрэчу экспертаў»*, – паведаміў прэс-сакратар МЗС **Дзмітрый Міронча**к. Ён нагадаў, што пытанне ўзаемнага прызнання віз разглядалася на нарадзе ў Аляксандра Лукашэнкі 11 студзеня. «*Пасля нарады нашы эксперты яшчэ раз паглядзелі тэкст, яго дапрацавалі, зыходзячы з тых крытэрыяў, якія былі вызначаны. Адзін з крытэрыяў – гэта зняцце праблем з перасячэннем беларуска-расійскай мяжы для замежных грамадзян, натуральна, з захаваннем інтарэсаў Беларусі і Расіі ў галіне бяспекі*», – заўважыў Міронча.

На гэтай нарадзе, як вядома, Лукашэнка паставіў задачу на працягу 2018 года ўрэгуляваць рознагалоссі ў памежнай сферы з Расіяй. «*Беларуска-расійская мяжа набыла негалосны статус, як яе часта называюць у інтэрнэце і ўсюды, «самай дзіўнай мяжы ў Еўропе»*», – заявіў кіраўнік дзяржавы. – *Расійскі бок без афіцыйнага паведамлення пачаў ажыццяўляць паўнавартасны пашпартны кантроль у дачыненні да ўсіх асоб, якія едуць на аўтамабільным транспарце, а затым – на авія- і чыгуначным*».

Паводле слоў Лукашэнкі, расійскі бок зыходзіць нібыта з меркаванняў бяспекі. «*Але пра якую бяспеку можа быць гаворка, калі ў нас сумесныя спісы замежнікаў, якім забаронены ўезд на тэрыторыю Саюзнай дзяржавы? Ніхто не можа ўехаць, хто знаходзіцца ў гэтых спісах. Хто не знаходзіцца, мае права ўехаць, пакуль не трапіць у гэтыя спісы. Таму ўсялякія адгаворкі і спасылкі на тое, што ў нас нібыта не тое тут робіцца і таму ўводзіцца мяжа, няслушныя*», – падкрэсліў ён.

БелаПАН.

ОТКРЫТЫЙ ВОПРОС

# Александр Радьков уступит кресло Марианне Щеткиной?

*Сегодня, 19 января, в Минске проходит третий съезд РОО «Белая Русь», в котором предполагается участие А.Лукашенко. Самая главная интрига – кто возглавит организацию, лояльную нынешней власти? Накануне мероприятия «Народная Воля» задала несколько вопросов заместителю председателя организации **Александру Шатько**.*

**– Александр Викторович, накануне съезда немало было разговоров о том, станет ли в Беларуси после этого съезда на одну политическую партию больше?**

– Вообще не планировалось говорить о каких-то перерождениях нашей общественной организации в политическую партию, потому что по уставу съезд не занимается этими вопросами. На съезде можно выбрать новый совет организации, определиться с лидером общественного объединения. Уже новый совет «Белой Руси» должен принимать решение о подготовке перехода в партийное русло. Но перед этим мы должны провести соответствующий мониторинг – опросить большинство членов организации, согласны ли они с тем, чтобы республиканское общественное объединение «Белая Русь» переросло в партию. И что делать с теми, кто не захочет войти в партию? То есть вопросов очень много. Поэтому мы и не торопимся.

Понятное дело, что партии занимаются борьбой за власть. Но наш главный лидер – Александр Григорьевич.

**– Вы почти как партия власти…**

– Я так говорить не буду, потому что мы все-таки общественное объединение, которое больше занимается социальными вопросами. И я не думаю, что сразу после съезда мы бросимся строить партийную систему. В новом республиканском совете будет достаточно много новых лиц, и именно совет решит, кто будет председателем организации.

**– Александр Радьков уже ведь не будет баллотироваться? Высказывались версии, что «Белую Русь» может возглавить заместитель председателя Совета Республики Марианна Щеткина…**

– Версий много. И это вопрос точно непростой. Потому что если говорить о том, что в дальнейшем наше объединение будет стремиться к партийному строительству, то должны быть одни лидеры. А если мы остаемся в формате общественного объединения – другие. Ну и на любые посты всегда предлагается несколько кандидатур…

**– Радьков руководит «Белой Русью» уже больше 11 лет. Если честно, уже и поднадоел…**

– Так он и не стремится и не рвется снова в лидеры! Радьков много чего сделал, настроил систему. В конце концов, ему уже 67 лет…

**– Возраст – не приговор.**

– Да, но тем не менее для политика такого уровня дальше заниматься всеми этими вопросами уже непросто. Но я вам сразу скажу: интрига с лидером до сих пор остается.

**– Александр Викторович, из регионов, особенно накануне съезда, поступала информация о том, что людей просто заставляют вступать в вашу организацию. И если в столице еще можно как-то сопротивляться, то в регионах, где весьма непросто найти хорошую работу, многие вынужденно ставят подпись о членстве в «Белой Руси»…**

– Скажу как есть. Количество людей в организации – совершенно не тот показатель, к которому мы стремимся. Сегодня у нас насчитывается почти 180.000 членов организации. Только в этом году вступило 10.000…

**– Добровольно или все же добровольно-принудительно?**

– Сами понимаете: те, кто вступил против своей воли, будут только мешать организации развиваться. И для нас это просто беда. Потеря авторитета. Мы жестко за этим следим. И я лично проехал полреспублики, особенно обращая внимание на этот момент. Нам нужно не количество, а прежде всего качество! Балласт вреден для нашего развития.

Я вам признаюсь: моя жена, работая в школе, вступила в «Белую Русь» только в этом году, хотя я в организации 12 лет. И дочь, которая работает в БГУ, тоже в этом году вступила. Хотя ей много раз предлагали до этого. Просто сегодня у нас есть интересные проекты, некоторые преференции – малые, но есть.

В первое время действительно были проблемы, о которых вы говорите. Где-то подтверждались факты, где-то – не совсем. Мы на все это реагируем.

**Марина КОКТЫШ.**

СИТУАЦИЯ

# Экс-директор «Витьбы» оспаривает скандальное увольнение

*Суд Октябрьского района Витебска признал законным увольнение в декабре 2017 года с должности гендиректора кондитерской фабрики «Витьба», одного из крупнейших в стране производителей кондитерских изделий, Александра Гидрановича. Экс-руководитель намерен обжаловать это решение, отмечая, что на областном уровне на справедливое решение не рассчитывает. Он также приводит заключение Минтруда и соцзащиты, в котором указывается на отсутствие оснований для его увольнения «за систематическое неисполнение без уважительных причин обязанностей, возложенных на него контрактом».*

6 декабря Гидранович, работавший на предприятии с 1990 года, с момента создания, в том числе почти 15 лет – директором, был уволен по п.4 ст.42 Трудового кодекса – «Систематическое неисполнение без уважительных причин обязанностей, возложенных на него контрактом».

Все «проступки» директор, чей контракт истекает только в 2020 году, совершил практически за неделю (22 ноября – выговор, 23-го – замечание, 27-го – замечание, 6 декабря – увольнение). Но Минтруда и соцзащиты обращает внимание на то, что, «разрешая иски о восстановлении на работе лиц, трудовой договор с которыми расторгнут по п.4 ст.42 ТК, следует иметь в виду, что по этому основанию могут быть уволены работники, которые после применения одной из мер дисциплинарного взыскания, предусмотренных ст.198 ТК, **вновь нарушили дисциплину**».

При этом, продолжают эксперты министерства, Гидранович был привлечен к дисциплинарной ответственности по приказам от 23 ноября, 27 ноября и от 6 декабря за факты, которые имели место **до применения первого дисциплинарного взыскания** по приказу от 22 декабря (невыполнение задания, установленного решением Витебского облисполкома «О социально-экономическом развитии области и задачах на 2017 год»).

Действительно, по приказу от 23 ноября претензии к директору возникли по итогам проверок, прошедших еще раньше, 9 и 10 ноября.

*«Даже если не обсуждать то, насколько директор должен нести ответственность вплоть до увольнения за нестриженые ногти одной из сотрудниц, то «нарушение» это точно было еще до первого взыскания, о чем наниматель, безусловно, знал. Претензии абсурдны, а увольнение незаконно»*, – прокомментировал **Александр Гидранович.**

Замечание, датированное 27 ноября, касается отсутствия инструкции по противопожарной безопасности и ответственного за противопожарную безопасность в одном из подразделений. Нарушение было выявлено в августе и устранено в сентябре.

«Таким образом, не имелось оснований для увольнения Гидрановича А.И. по п.4 ст.42 ТК», – резюмирует Минтруда.

tut.by


Народная Воля http://www.nv-online.info 19 СТУДЗЕНЯ 2018 г.

ШЧАСЛІВАГА ШЛЯХУ!

# У Ганконг без візы!

13 лютага пачне дзейнічаць міжурадавае пагадненне паміж Беларуссю і спецыяльным адміністрацыйным раёнам КНР Ганконгам аб адмене візавага рэжыму, паведаміў прэс-сакратар МЗС Беларусі **Дзмітрый Міронча.**

Паводле яго слоў, грамадзяне Беларусі і грамадзяне Кітая, якія жывуць у Ганконгу, атрымаюць права ўязджаць, выязджаць, знаходзіцца і праязджаць транзітам без віз на працягу 14 дзён.

Міронча адзначыў, што Беларусь працягвае працу па адмене візавага рэжыму з шэрагам іншых краін, у тым ліку ААЭ.

**Таццяна КАРАВЯНКОВА.**

БелаПАН.

ФАКТ

# Цэнтральны апарат МЗС скарочаны на трэць

Аб гэтым пасля завяршэння рабочай сустрэчы з **Аляксандрам Лукашэнкам** паведаміў журналістам міністр замежных спраў **Уладзімір Макей.**

*«Скарачэнне ўжо адбылося. Цэнтральны апарат скарочаны прыкладна на трэць. І загранустановы – на 15 працэнтаў»*, – цытуе міністра БЕЛТА.

Паводле слоў Макея, у бягучым годзе будуць скарочаны яшчэ некалькі загранустаноў. Беларусь закрые генконсульствы ў Адэсе, Гданьску і Мілане. Макей удакладніў, што пасля скарачэння ў Беларусі будзе 66 замежных устаноў у 56 краінах.

РЭГІСТРАТУРА

# У Еўропе – грып

Паводле дадзеных FluNews Europe, у 16 еўрапейскіх краінах – у тым ліку ў Германіі, Іспаніі, Італіі, Аўстрыі, Нарвегіі, Нідэрландах, Францыі, Швейцарыі і Швецыі адзначаецца шырокае распаўсюджванне вірусаў грыпу з высокай інтэнсіўнасцю эпідэмічнага працэсу ў Ірландыі, Італіі і Вялікабрытаніі. У лабараторных даследаваннях, праведзеных у краінах Еўрапейскага рэгіёна, дамінуюць вірусы грыпу тыпу В (65%).

Што тычыцца Беларусі, то спецыялісты супакойваюць: у нашай краіне захворванне на вострыя рэспіраторныя вірусныя інфекцыі характарызуецца нізкай інтэнсіўнасцю і ўзроўнем ніжэй на 40,1% у параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года. Цыркулююць у асноўным негрыпозныя рэспіраторныя вірусы. *"Сустракаецца і спарадычнае выяўленне вірусаў грыпу AH3N2, што характэрна для дадзенага перыяду сезоннага захворвання на ВРІ"*, – тлумачаць спецыялісты Рэспубліканскага цэнтра гігіены і грамадскага здароўя. Сярод тых, хто захварэў, дзеці складаюць 67,3%.

Нашы спецыялісты таксама адзначаюць, што аналагічная сітуацыя па захворванні на вострыя рэспіраторныя інфекцыі, якая суправаджаецца спарадычным вылучэннем вірусаў грыпу, адзначаецца ў Расіі, Латвіі, Літве і Украіне.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ЧУЛІ?

# Гадавы бонус выплачваць часткамі на працягу некалькіх гадоў…

*Нацбанк адрэагаваў на заяву А.Лукашэнкі зрабіць сістэму ўзнагароджання банкіраў справядлівай.*

*"Хацелася б, каб банкаўская сістэма не была, цытую народ, «зборышчам тоўстых катоў» (гэта не толькі кажа рабочы і селянін, гэта кажа ўся інтэлігенцыя). Банкаўскія работнікі павінны адпавядаць таму ўзроўню, які склаўся ў краіне па заработнай плаце і даходах"*, – заявіў на нарадзе ў лістападзе 2017 года Аляксандр Лукашэнка і даручыў навесці парадак у сферы аплаты працы работнікаў банкаў. Каб яна стала справядлівай, падкрэсліў кіраўнік дзяржавы.

І вось учора Нацыянальны банк паведаміў, што сваёй пастановай № 544 ад 29 снежня 2017 года ён устанавіў патрабаванні да сістэмы ўзнагароджання банкаўскіх работнікаў. Пастанова ўступае ў сілу 1 красавіка 2018 года. Патрабаванняў многа, адно з іх, напрыклад, прадугледжвае праводзіць "*выплату кіраўніцтву банка ўзнагароджання па выніках працы за справаздачны год ці гадавога бонусу часткамі на працягу некалькіх гадоў*". Адразу ж стала цікава, якім жа можа быць памер узнагароджання, каб яго можна было выплачваць часткамі на працягу некалькіх гадоў…

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

ЧУЛІ?

# У заканадаўства, якое тычыцца эканамічных злачынстваў, плануецца ўнесці ліберальныя змены

Гэта абмяркоўвалася на Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі «Супрацьдзеянне лжэпрадпрымальніцтву і незаконнай прадпрымальніцкай дзейнасці», якая прайшла ў верасні 2017 года. Пра меркаваныя змены паведамляе часопіс Генпракуратуры «Законность и правопорядок» №4 за 2017 год.

У прыватнасці, мяркуецца павысіць памеры буйнога і асабліва буйнога памеру шкоды, якія з'яўляюцца падставай для прыцягнення да крымінальнай адказнасці. Пра гэта заявіў кіраўнік ведамства **Аляксандр Канюк**. «Буйны памер» прапануецца павысіць у чатыры разы (з 250 да 1000 базавых велічынь), а «асабліва буйны» – удвая (з 1000 да 2000 базавых).

Сённяшнія памеры буйной і асабліва буйной шкоды складаюць каля 3 тысяч долараў і 11,7 тысячы долараў у эквіваленце.

Таксама плануецца знізіць максімальныя тэрміны пазбаўлення волі па наступных артыкулах Крымінальнага кодэкса: «Крадзеж шляхам злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі» (ч.2 арт.210), «Крадзеж шляхам выкарыстання камп'ютарнай тэхнікі» (ч.4 арт.212), «Незаконная прадпрымальніцкая дзейнасць» (ч.1 арт.233), «Наўмысная эканамічная неплацежаздольнасць (банкруцтва)» (ч.1 арт.240), «Незаконныя дзеянні з простымі і пераводнымі вэксалямі» (ч.2 арт.226), «Незаконны выраб, выкарыстанне ці збыт дзяржаўных прабірных клеймаў» (ч.1 арт.258).

Таксама плануецца максімальна выключыць са складу злачынстваў ацэначныя (суб'ектыўныя) катэгорыі кшталту «іншая залежнасць», «іншыя цяжкія наступствы», «істотная шкода», «іншая асабістая зацікаўленасць» і г.д.

ЗА РУЛЕМ

# Как продаются белорусские Geely?

*Спортивный, изысканный, стремительный, как бегущий гепард. Так один из автосалонов Geely, который недавно заработал в Минске, презентует на своем сайте первый серийный белорусский легковой автомобиль Geely Atlas. Пользуется ли спросом отечественный кроссовер?*

### Geely на 12-м месте

Недавно Белорусская автомобильная ассоциация подвела итоги работы за прошлый год. Дилеры констатировали, что в 2017 году в Беларуси значительно выросли продажи новых автомобилей – до 34.255 тысяч (в 2016-м – 25.511). Традиционно самыми продаваемыми марками стали Renault (10.451 автомобиль), Volkswagen (5591), Lada (3509), Nissan (1971) и Skoda (1952). Что касается марки Geely, то она в рейтинге продаж оказалась на скромном 12-м месте. Продано 480 автомобилей. *(См. табл. «Топ 30 легковых автомобилей».)*

Цифра, конечно, скромная. Но, как известно, на ближайшие годы у наших чиновников от автопрома грандиозные планы: в 2018 году планируется продать не менее 25 тысяч (!) собранных в Беларуси Geely, а через несколько лет этот объем довести до 60 тысяч в год! Возможности для этого, говорят чиновники, есть.

Как известно, в ноябре под Борисовом А.Лукашенко открыл новый белорусско-китайский завод «БелДжи» по выпуску Geely. Производственные мощности предприятия – 120 тысяч машин в год. До этого Geely выпускались на площадях завода «Автогидроусилитель» в Борисове. И, например, в 2016 году там было собрано всего лишь 5 тысяч машин. Т.е. объемы производства Geely уже на первых порах планируется увеличить в 5 раз.

Понятно, что на реализацию продукции только на отечественном рынке наши чиновники не рассчитывают. Министр промышленности **Виталий Вовк** заявил, что около 90% автомобилей с нового завода «БелДжи» будет поставляться в Российскую Федерацию. На что многие эксперты отреагировали скептически, напомнив, что Geely в России не пользуется популярностью у автолюбителей. В 2016 году продажи китайских авто в РФ упали на 21%.

### «Ждем от властей обещанных финансовых инструментов»

Сегодня «БелДжи» выпускает только одну марку автомобиля – Geely Atlas NL3. Прежняя модель – кроссовер Geely Emgrand X7 – снята с производства еще в середине прошлого года. В 2017-м, к слову, на белорусском рынке было продано всего лишь 167 Emgrand X7. За полтора месяца, что выпускались Geely Atlas в прошлом году, было реализовано 184 этих авто. Заявлено, что в будущем помимо Geely Atlas NL3 «БелДжи» будет производить Geely Atlas NL4 и компактный седан.

Сегодня реализацией китайских автомобилей белорусской сборки занимаются только два столичных салона: **«Джили Центр Минск»** и **«Лакшери Моторс плюс».** Прежнему официальному автодилеру Geely – ОАО «**Автоторгсервис**» – продавать автомобили пока запретили: салон не соответствует современным корпоративным требованиям. *«Это было решение китайского акционера*, – говорят в «Автоторгсервисе». – *Китайцы хотят, чтобы Geely продавались в салонах-дворцах, чтобы были просторные шоу-румы, складские помещения, большой паркинг у входа. Новые салоны отвечают этим требованиям. Повлияет ли это на объемы продаж – посмотрим»*.

Как идет реализация белорусских авто?

– *Интерес у людей большой, отзывы хорошие*, – говорит представитель ООО «Лакшери Моторс плюс» **Наталия Полещук.** – *Очень много людей смотрят машины, активно записываются на тест-драйв, иногда приходится даже ждать очереди, чтобы протестировать машину. Что касается продаж… Они потихонечку идут, не скажу, что машины отгружаем сотнями, но салон работает. Мы очень надеемся на получение обещанных от властей финансовых инструментов: Владимир Семашко на всю страну заявлял, что для продажи Geely внутри Беларуси будут разрабатываться программы по субсидированию. Что это будет – рассрочки, сниженные ставки по кредитованию – неважно, главное, чтобы эти инструменты заработали. Физические лица ждут именно этих условий. Geely Atlas – не самая дешевая машина, это не бюджетный вариант, это С-класс. В прошлом году 70 процентов новых автомобилей на белорусском рынке были проданы именно благодаря выгодным условиям покупки… А «БелДжи», можно сказать, один государственный завод в стране, никак не может предложить покупателям интересные финансовые условия по приобретению автомобилей.*

*Что касается конкретных цифр продаж, то представитель автосалона их не называет. «Работаем только месяц, – замечает Наталия Полещук. – Рано еще говорить о статистике».*

### «На конец зимы – начало весны запланирован старт продаж Geely Atlas в России»

На заводе «БелДжи» на вопрос о том, как идет производство и реализация первого автомобиля белорусской сборки, отвечают лаконично: работаем в штатном режиме.

– *Я не сторонник называть какие-то цифры*, – говорит начальник коммерческой службы «*БелДжи*» **Кирилл Шоломицкий**. – *Они меняются каждый день. Что касается производства – никаких неожиданностей или проблем нет. Чем-то мы довольны, что-то надо улучшать – это абсолютно закономерный процесс для любого нового производства.*

*В данный момент активно идет производственное испытание двух новых моделей Geely, до 1 июля они должны сойти с конвейера. Пока же реализовываем только Geely Atlas NL3 и только на внутреннем рынке. Есть заявки на поставки автомобиля из России. В Российской Федерации «БелДжи» имеет своего дистрибьютора – «Джили моторс». Мы туда только отгружаем машины, развитием дилерской сети, маркетингом занимается дистрибьютор. Работает «Джили моторс» активно, на конец зимы – начало весны запланирован старт продаж Geely Atlas в России. В данный момент мы как раз согласовываем сроки и формы контрактов. Мы на той стадии, когда все только начинается.*

По словам Кирилла Шоломицкого, на «*БелДжи*» *также* сейчас идет очень активная работа и по открытию дилерских центров в областных городах Беларуси.

**Мария ЭЙСМОНТ.**

Когда уже вице-премьер В.Семашко приобретет в личное пользование авто марки Geely?

ДЛЯ СПРАВКИ

*Более половины акций СЗАО «БелДжи» – 51,49% – принадлежит ОАО «БелАЗ», чуть более 1/3 – 33,47% – китайской компании Zhejang Jirun Automobile Co., Ltd. Небольшие пакеты акций – у СЗАО «Союзавтотехнологии» (9,01%) и CITIC International Investment Limited (6,03%).*

ЦЕНА ВОПРОСА

# До 27 тысяч долларов

*Сколько стоит белорусский серийный автомобиль? На данный момент цена в зависимости от комплектации следующая:*

| GEELY ATLAS | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Модель | 2.0L/Euro 5/MT | | 2.4L/Euro 5/AT(4*2) | | 2.4L/Euro 5/AT(4*4) | | |
| Комплектации | Base | Comfort | Comfort | Luxury | Comfort | Luxury | Flagship |
| Цена | 17.600 USD | 19.50 USD | 20.850 USD | 22.50 USD | 22.00 USD | 24.300USD | 26.300 USD |

Стоит заметить, что Kia Sportage, названный Владимиром Семашко аналогом Geely Atlas, стоит на нашем рынке несколько дороже – от 18.700 до 31.000 долларов в зависимости от комплектации. Но купить Sportage можно, например, в рассрочку. В прошлом году белорусы купили более 1000 новых Kia Sportage.

КОМПЕТЕНТНО

## Сергей ВАРИВОДА:
# «Задача стоит крайне сложная»

*Насколько успешным, а главное – окупаемым, станет проект промышленной сборки автомобилей Geely под Борисовом? С этим вопросом мы обратились к независимому эксперту, члену правления Белорусской автомобильной ассоциации Сергею Вариводе:*

– Успех зависит от рынков сбыта, от того, как сработают дилеры, менеджмент «БелДжи» совместно с Минпромом, МИД, Минторгом. Если «БелДжи» не научится продавать готовую продукцию, то за все эти эксперименты придется платить нам с вами. Ведь кредит на реализацию проекта промышленной сборки автомобилей Geely в Беларуси был привлечен под гарантии Минфина. Если «БелДжи» не сможет обслуживать этот кредит, он будет погашаться за счет бюджета, т.е. денег налогоплательщиков.

А задача стоит крайне сложная.

Изначально этот проект затевался почти исключительно с ориентацией на рынок Таможенного союза. Тогда автомобильный рынок России стремительно развивался, и, например, в 2013 году продажи собранных в Китае Geely в соседней стране составили 27.263 единицы. Но, к сожалению, пока мы строили новый завод «БелДжи», они у себя в России тоже кое-что строили. И уже в 2016 году наблюдалось катастрофическое падение продаж марки Geely на российском рынке – до 4473 единиц. Автомобильный рынок Казахстана в принципе закрыт для поставок белорусской продукции высокими ставками утилизационного сбора. Поставки белорусских Geely в эту страну в 2016 году прекращены.

Но мне сегодня не хотелось бы лишать компанию «БелДжи» боевого духа. Давайте дадим им возможность проявить себя и поработать хотя бы год. Тогда и дадим оценку.

ТОП 30 ЛЕГКОВЫХ АВТОМОБИЛЕЙ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Volkswagen Polo | 3926 | 11 | LADA Largus | 602 | 21 | LADA XRAY | 364 |
| 2 | Renault Sandero Stepway | 2940 | 12 | LADA Vesta | 601 | 22 | LADA ГРАНТА | 361 |
| 3 | Renault Logan | 2298 | 13 | Volkswagen Tiguan | 582 | 23 | Toyota RAV4 | 332 |
| 4 | Renault Duster | 2253 | 14 | Kia Rio | 573 | 24 | Nissan Terrano | 307 |
| 5 | Renault Kaptur | 1821 | 15 | Renault Sandero | 572 | 25 | Mazda CX-5 | 215 |
| 6 | Škoda Rapid | 1365 | 16 | Nissan Almera | 545 | 26 | Toyota Camry | 214 |
| 7 | Kia Sportage | 1117 | 17 | Nissan Qashqai | 530 | 27 | Geely ATLAS | 184 |
| 8 | Hyundai Creta | 845 | 18 | Nissan X-Trail | 440 | 28 | Chery Tiggo 3 | 173 |
| 9 | LADA 4x4 | 637 | 19 | Škoda Octavia | 434 | 29 | LADA ГРАНТА | 172 |
| 10 | Hyundai Accent | 621 | 20 | Volkswagen Jetta | 422 | 30 | Geely Emgrand X7 | 167 |

